№ 1 (3946)

6 студзеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



*ПАВЕЛ, мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі:*

## Жадаю вам невычарапальнай благадатнай дапамогі Божай у працы на славу Бацькаўшчыны нашай!

*Абвяшчаю вам радасць вялікую,*
*якая будзе ўсяму народу:*
*нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давідавым Спасіцель,*
*Які ёсць Хрыстос Гасподзь*
*(Лк. 2: 10-11)*

Праасвяшчэнныя архіпастыры,
высокашаноўныя прасвітары і дыяканы,
пачэсныя інакі і інакіні,
богалюбівая паства Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Сардэчна віншую ўсіх вас з вялікім і радасным святам Раждджаства Хрыстовага.

У гэтую светлазарную ноч у свет прыйшоў Хрыстос Спасіцель, каб адкрыць людзям Бога. Святая Царква, абвяшчаючы свету гэтую Бажэственную тайну, пачынае святочную ўрачыстасць словамі: «Прыйдзіце, узрадуемся ў Госпадзе, тайну гэтую раскрываючы».

Вялікую тайну Богаўцялеснення прадказвалі пракрокі, пра гэта прапаведавалі апосталы: Бог з'яўляецца ў плоці, каб даць людзям новае нараджэнне, а свету – абнаўленне. Выйшаўшы на пропаведзь, Сам Спасіцель адкрыта сведчыў веруючым у Яго: «Я прыйшоў, каб жыццё мелі, і ўдосталь мелі» (Ін. 10: 10).

Любоў Божая, бязмежная і ўсеахопная, сышла да людзей у Асобе Богадзіцяці Хрыста. Сын Божы сышоў на зямлю, каб даць чалавецтву Бажэственную сілу, «для жыцця і набожнасці» (2 Пят. 1: 3), каб наша грахоўнасць была згладжана Праўдай Божай, каб наша няведанне было прасветлена Святлом Божым. «Слава ў вышніх Богу і на зямлі мір, у людзях добрая воля» (Лк. 2: 14), – Святая Царква, святкуючы Раждджаство Хрыстова, услед за Нябеснымі Сіламі радасна ўслаўляе Госпада нашага Ісуса Хрыста, Які прынёс на зямлю вечнае спасенне, мір і любоў.

Імкненне да міру, згоды і адзінства – маральная патрэба чалавека ва ўсе часы. Мір прынёс чалавецтву Гасподзь наш Ісус Хрыстос – уцялеснены Сын Божы. «Няхай усе будуць адно: як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, так няхай і яны ў Нас будуць адно» (Ін. 17: 21), – маліў Ён Свайго Айца Нябеснага. Мірнае адзінства людзей у Адзіным Богу, у адзінай праваслаўнай веры – найвышэйшая мэта, указаная Спасіцелем свету, Які прыйшоў на зямлю. І ўсе мы як верныя дзеці Хрыстовы, дзеці Праваслаўнай Царквы павінны клапаціцца пра адзінства нашай Царквы.

Зерне веры і набожнасці, пасеянае больш за тысячагоддзе таму на нашай благаславёнай зямлі, з цягам часу вырасла ў магутнае дрэва Праваслаўя, якое і сёння застаецца асновай нацыянальнага самавызначэння пераважнай большасці насельніцтва трох славянскіх краін – Беларусі, Расіі і Украіны, якая перажывае цяпер трагедыю грамадзянскай вайны. Ва ўмовах палітычнай дэзінтэграцыі Царква для народаў, якія яе складаюць, застаецца змацавальным саюзам. Для праваслаўнага чалавека – гэта адзіная духоўная прастора, якая мае агульны для гэтай часткі Еўропы культурна-цывілізацыйны код.

У адной са сваіх прамоў Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл нагадаў тую ісціну, якая была цудоўна выказана ў словах аднаго прападобнага і богаўгоднага чалавека: «Расія, Украіна, Беларусь – гэта і ёсць Святая Русь». Усе мы – беларусы, расіяне і ўкраінцы – павінны ўсведамляць сваю адказнасць за захаванне ўнікальнай цывілізацыйнай прасторы, якая носіць назву – Святая Русь. І ў той жа час гэта зусім не азначае адмаўлення ад ідэі дзяржаўнага суверэнітэту трох славянскіх краін.

Год мінулы, па міласці Божай, прынёс нам нямала духоўнай радасці. Ён быў адзначаны важнымі падзеямі ў жыцці нашай Царквы. Адпаведна з рашэннямі Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла і Свяшчэннага Сіноду Рускай Праваслаўнай Царквы на тэрыторыі Беларусі ўтвораны новыя епархіі. Гэта дазволіць усім епархіяльным архіерэям мець больш зносін са сваёй паствай на прыходах, стаць бліжэй да простых вернікаў, дапамагаць пачынаючым вернікам усвядоміць свае духоўныя вытокі, далучаючы іх да этнакультурнай традыцыі нашай краіны, а значыцца, – да яе рэлігійнай традыцыі, да Праваслаўя, што будзе спрыяць і працэсу фарміравання прыходаў з актыўным прыходскім жыццём.

Праасвяшчэнныя архіпастыры, узлюбленыя айцы, браты і сёстры! Віншуючы ўсіх вас са светлым святам Раждджаства Хрыстовага, малітоўна жадаю вам невычарапальнай благадатнай дапамогі Божай у далейшай вашай працы на славу Святой Праваслаўнай Царквы, на славу Бацькаўшчыны нашай, на карысць і росквіт зямлі, на якой мы з вамі жывём, на дабро ўсім нашым бліжнім і дальнім! Амінь.

**ТЭНДЭНЦЫІ**

## "Яшчэ крок – і падатак на куплю валюты адменяць..."

*Учора афіцыйны курс долара вырас адразу на 840 рублёў, але з гэтага ж дня стаўка падатку на куплю валюты ў Беларусі зніжана да 10%.*

Першыя ж таргі на біржы ў 2015 годзе завяршыліся рэзкім аслабленнем беларускага рубля. Афіцыйны курс долара вырас адразу на 840 рублёў (з 11.900 да 12.740 рублёў), еўра падаражэў на 770 рублёў да 15.230.

Тым часам стаўка падатку на біржавыя аперацыі па куплі замежнай валюты і падатак пры пакупцы валюты насельніцтвам з 5 студзеня зніжана з 20 да 10 працэнтаў.

Нагадаем, што 20 снежня стаўка падатку складала 30%, а пасля была зніжана да 20%. Што беларускі рубель чакае далей?

– Розніца паміж афіцыйным курсам долара і курсам куплі і продажу ў абменніках працягвае змяншацца, – адзначае фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра Альпары ў Мінску **Вадзім ІОСУБ.** – Зараз амаль поўнасцю паўтарыўся той крок, што зрабілі ўлады напрыканцы мінулага года, калі афіцыйныя курсы замежных валют выраслі на 7 працэнтаў, а падатак для юрыдычных асоб і насельніцтва пры пакупцы валюты знізілі на 10 працэнтаў. Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць, што ў хуткім часе падатак на куплю валюты наогул адменяць. Пры гэтым афіцыйны курс долара будзе, хутчэй за ўсё, на ўзроўні 14 тысяч рублёў.

**– Уведзены падатак зрабіў сваю справу?**

– Ён выконвае ролю схаванай дэвальвацыі. Замест таго каб у другой палове снежня 2014 года аб'явіць дэвальвацыю, прыдумалі вось гэты падатак. Такім чынам, нацыянальная валюта дэвальвіравалася ў некалькі крокаў, хоць адразу пасля ўвядзення камісіі было зразумела, што мэта афіцыйнай дэвальвацыі – давесці курс да 14 тысяч рублёў за долар.

**– Што чакае беларускі рубель у 2015 годзе?**

– У бліжэйшы час, як я ўжо казаў, долар павінен выйсці на адзіны курс, а падатак адменяць. Але якім чынам валютны рынак будзе функцыянаваць далей – гэта пытанне адкрытае, а эканамічныя ўлады пакуль даюць толькі нейкія агульныя прагнозы. У мінулым годзе прагучала некалькі заяў, што курс павінен быць рынкавым, складацца з попыту і прапановы, але гэтага так і не адбылося. Таму сёння прагназаваць далейшае курсаўтварэнне дастаткова складана.

**Алесь СІВЫ.**

**КАДРЫ**

## *Беларускі суддзя ўзначаліў Суд Еўразійскага эканамічнага саюза*



Былы першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда Беларусі **Аляксандр Федарцоў** стаў старшынёй Суда Еўразійскага эканамічнага саюза. Ад пасады ў Вярхоўным судзе Беларусі ён вызвалены.

Таксама суддзёй Суда ЕАЭС стаў **Дзяніс Колас,** які займаў пасаду начальніка галоўнага ўпраўлення па ўзаемаадносінах з органамі заканадаўчай і судовай улады, пытаннях грамадзянства і памілавання Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі.

Намеснікам старшыні Суда ЕАЭС стаў **Жалымбет Баішаў** з Казахстана, які з кастрычніка 2014 года быў старшынёй Суда ЕўрАзЭС. Акрамя таго, суддзямі прызначаны Венера Сейцімава (Казахстан), Таццяна Нешатаева (Расія) і Канстанцін Чайка (Расія).

**ВЕДАЙ НАШЫХ!**

## Дар'я Домрачава ўвайшла ў тройку найлепшых спартсменак года ў свеце

Міжнародная асацыяцыя спартыўнай прэсы прызнала беларускую біятланістку Дар'ю Домрачаву, якая стала трохразовай чэмпіёнкай Алімпійскіх гульняў у Сочы, другой у спісе найлепшых спартсменак свету 2014 года. Першае месца заняла тэнісістка Серэна Уільямс з ЗША, трэцяе -- нарвежская лыжніца Марыт Б'ёрген.





У тройку найлепшых спартсменаў увайшлі варатар нямецкай футбольнай зборнай Мануэль Ноер, швейцарскі тэнісіст Роджэр Федэрэр і нападаючы футбольнай зборнай Партугаліі Крышціяну Раналду.

Найлепшымі камандамі прызнаны зборная Германіі па футболе, мадрыдскі «Рэал» і мужчынская зборная Швейцарыі па тэнісе, якая заваявала Кубак Дэвіса.

Найлепшымі турнірамі, на думку журналістаў, былі чэмпіянат свету па футболе ў Бразіліі, зімовыя Алімпійскія гульні ў Сочы і Уімблдонскі тэнісны турнір.

**ДОЛГИ**

## *В наступившем году Беларусь должна выплатить по внутренним и внешним государственным обязательствам более 4 миллиардов долларов*

Около 3,1 миллиарда долларов необходимо будет перечислить в счет погашения и обслуживания внешнего государственного долга. Причем наибольший объем внешних валютных платежей приходится на погашение и обслуживание госдолга, образовавшегося в связи с выпуском Беларусью пятилетних еврооблигаций в 2010 году. В счет погашения данных обязательств страна должна будет выплатить в 2015 году почти 1,2 миллиарда долларов.

Кроме того, необходимо выплатить 716,3 миллиона долларов по межгосударственным кредитам России. Наряду с этим запланированы выплаты по кредиту Антикризисного фонда ЕврАзЭС в размере 541,2 миллиона долларов.

По кредитам Китая и Венесуэлы Беларусь должна будет выплатить в наступившем году 380,4 миллиона и 121,8 миллиона долларов соответственно.

На 2015 год также приходятся выплаты Беларуси по обслуживанию и погашению внутреннего валютного государственного долга, которые составят около 1 миллиарда долларов.

**МАНІТОРЫНГ**

## Амаль кожны трэці беларус адчувае пагаршэнне свайго дабрабыту

Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (зарэгістраваны ў Літве) апублікаваў дадзеныя нацыянальнага апытання, якое праводзілася ў снежні 2014 года.

Як высветлілася паводле вынікаў даследавання, напрыканцы года ледзь не трэць грамадзян Беларусі адчулі пагаршэнне свайго матэрыяльнага становішча – 31%. Аднак цікава, што і ў трэцім квартале, і ў чацвёртым 13% апытаных беларусаў запэўнілі, што іх становішча палепшылася.

Што да прагнозаў насельніцтва наконт сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне, то ў верасні 22,5% апытаных лічылі, што яна пагоршыцца. У снежні песімістаў паболела да 33,9%.

Пры гэтым адпаведна знізіўся і электаральны рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі. У верасні за яго гатовы былі галасаваць 45,2%, а вось у снежні жадаючых паменела да 40%. Прычым эксперты лічаць, што, калі б апытанне правялі пасля 19 снежня, калі падчас чарговага валютнага крызісу рубель патаннеў на 30%, то паказчыкі рэйтынгу кіраўніка краіны былі б яшчэ ніжэйшыя.

**СТРАТА**



## *У нядзелю 4 студзеня на 76-м годзе жыцця памёр Васіль Севасцьянавіч Лявонаў, былы міністр сельскай гаспадаркі, адзін з найбольш аўтарытэтных апанентаў дзеючай улады*

Васіль Севасцьянавіч Лявонаў нарадзіўся 16 красавіка 1938 года ў вёсцы Дубянец Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці.

У 1964-м скончыў Беларускі інстытут механізацыі, а потым Мінскую вышэйшую партыйную школу.

Працаваў цесляром, шахцёрам, інжынерам-механікам, старшынёй саўгаса, з'яўляўся першым сакратаром Магілёўскага абкама партыі.

У 1984–1989 гадах старшыня Мандатнай камісіі, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР.

У 1991-м на некалькі месяцаў быў прызначаны вядучым спецыялістам Галоўнага ўпраўлення эканамічных сувязяў з капіталістычнымі краінамі ў Маскве. Пасля забароны КПСС быў накіраваны гандлёвым прадстаўніком Беларусі ў Германію (1991–1994).

Падчас выбараў першага прэзідэнта Беларусі ў 1994 годзе Васіль Лявонаў адкрыта падтрымліваў Вячаслава Кебіча, аднак, нягледзячы на гэта, прыняў прапанову Аляксандра Лукашэнкі заняць пасаду міністра сельскай гаспадаркі і харчавання. Васіль Лявонаў не падтрымаў ідэю лістападаўскага рэферэндуму 1996 года, пасля чаго ў міністэрстве пачаліся масавыя праверкі.

Васіль Лявонаў паслядоўна выступаў з прапановамі аб рэфармаванні сельскай гаспадаркі, накіраванай на рэфармаванне калектыўнай уласнасці, далучэнне сельскай гаспадаркі да рынкавай эканомікі, яе вызваленне ад каманднa-адміністрацыйных метадаў, што і сталася асноўнай прычынай ягонага канфлікту з дзеючым прэзідэнтам і ў пэўным сэнсе – былым вучнем. Лявонаў быў арыштаваны 11 лістапада 1997 года, пакараны чатырма гадамі калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

Пасля вызвалення па амністыі Васіль Лявонаў стаў адной з ключавых фігур у працэсе абрання адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года.

Жанаты, меў трох дачок.

(Працяг на 2-й стар.)

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

## Ставка на Кобякова

Так что будет с экономикой? Этот вопрос на устах каждого здравомыслящего человека. Реальная зарплата вернулась на уровень 2010 года, а в долларовом эквиваленте в соответствии с последней ценой покупки «зеленого» снизилась до 430 у.е. Рост ВВП за 2014 год ожидается в пределах 1,5–1,6%, инфляция будет 18–19%, примерно 80% среднемесячного объема продукции лежит на складах, доля убыточных предприятий – не менее четверти.

Чтобы удержать рублевые депозиты на фоне очередного обесценения рубля, банки вновь вздернули свои ставки. На этот раз до 50%. Но кредитные проценты должны превышать депозитные. Практически точно так же все было год назад. Депозитные ставки банки поднимали до 40–45% годовых, кредитные ставки становились неподъемными для предприятий, ВВП не рос. Правительство давило на Нацбанк, чтобы тот снизил ставку рефинансирования. Нынче самому обновленному правительству опять велено «засучить рукава» и, не откладывая, приняться за работу.

Новый глава Нацбанка Каллаур предпринял правильные шаги по уменьшению процента сбора, уплачиваемого при покупке валюты, чтобы уйти, надо думать, от этого нелепого сбора-налога, который подрывает финансовое состояние не только импортеров, но и экспортеров. По заказу Нацбанка срочно закуплено несколько сотен миллионов долларовых банкнот, чтобы нормализовать ситуацию вокруг банковских обменников и ликвидировать «черный» валютный рынок. Повышается курс покупки валюты для населения.

Но это в основном технические меры по исправлению предыдущих ошибок, допущенных прежними денежными властями. С юридическими лицами обстановка неоднозначна, многие из них намерены приостановить свою работу, продлить новогодние каникулы до прояснения ситуации на валютном рынке. Бесспорно, необходимо вернуться к нормальной девальвации белорусского рубля, согласовывать ее с обесценением к мировым валютам российской денежной единицы с учетом состояния платежного баланса Беларуси.

Новоиспеченный премьер Кобяков уже успел заявить о необходимости «безусловного выполнения» экономических задач, поставленных решениями последнего Всебелорусского собрания. Напомним, что, согласно тем решениям, наш ВВП должен был возрасти за пятилетку не менее чем на 63%. По факту ВВП Беларуси за многострадальный 2011 год увеличился на 5,3%, за 2012 год - на 1,7%, за 2013 год – на 0,9%. Производительность труда должна была повыситься в 1,63–1,68 раза. Можете прикинуть, насколько экономика страны должна тигром прыгнуть в новом году для достижения заветных рубежей. Белорусам была обещана зарплата 1000 долларов в эквиваленте, т.е. в пересчете по сегодняшнему курсу должна быть к концу 2015 года эдак миллионов 15. Но всем уже ясно, что курс доллара к концу последнего года пятилетки будет явно больше. Остается гадать – насколько. Равно как и насколько серьезны заявления нового премьера. Или это просто мантры, которые повторяет любой премьер вслед за вождем, сам никак в них не веря.

Со сменой первых лиц в правительстве и главном банке страны властям в очередной раз напомнили о необходимости глубоких структурных реформ в белорусской экономике. Об отказе от «ручного управления» из центра, о приватизации и повышении доли малого и среднего бизнеса в ВВП, о создании равных условий для государственных и частных предприятий, о свободной конкуренции и гарантии прав собственности, о диверсификации экспорта и об отказе от однобокой ориентации на Россию и т.д., о чем говорится уже много лет. Только в конечном итоге рыночные реформы неминуемо приведут к смене экономической модели и потребуют отказаться от идеологии авторитаризма. Поэтому логичнее предположить, что главная задача белорусских властей – готовиться к адекватному реагированию на события политического и экономического толка, которые будут происходить в России. А по словам бывшего министра финансов России Кудрина, кризис, накрывший экономику восточной соседки, будет затяжным и тяжелым. Падение ВВП составит от 2 до 4%, сократятся государственные расходы на образование, здравоохранение. Подсчитано, что падение российского ВВП на 1% равнозначно снижению белорусского ВВП на 0,5% – настолько зависима экономика Беларуси от российской. Золотовалютные резервы России впервые за 5 лет упали ниже 400 млрд долларов. Девальвация российского рубля достигала 100%. Ни у одной из нефтедобывающих стран из-за падения мировых цен на нефть национальная валюта не пала столь низко. Сказываются финансовые санкции Запада, которые резко ограничили возможности российских банков кредитоваться на мировом финансовом рынке, а внешний валовой долг России оценивается до 700 и более млрд долларов. Там готовятся к стресс-сценарию на случай цены нефти 40 долларов за баррель и ниже с падением ВВП на 5%.

Многие аналитики считали, что лучшей кандидатурой на пост премьера Беларуси будет Румас, нынешний глава Банка развития и одновременно представитель Беларуси в высших эшелонах ЕАЭС, который заработал с 1 января 2015 года. Однако правы оказались те, кто обратил внимание на трудовую биографию Кобякова. Родился в Москве, в ней получил первое образование, в 2011 году был послом Беларуси в России, долго взаимодействовал с российскими чиновниками. И, как иносказательно выразился о нем сам Путин, много крови у них попил.

Тот же Путин на недавней пресс-конференции, недвусмысленно дал понять российской общественности, что менять свою политику в отношении Украины не собирается, и фактически призвал российский народ затянуть пояса этак года на два. Ну а поскольку, как водится, судьба белорусской экономики зависит от того, сможет ли российское руководство «отжалеть» пару-тройку миллиардов долларов союзнику, чтобы удержать ситуацию хотя бы до президентских выборов, премьер Кобяков может здесь и пригодиться. Однако в отличие от прежних тучных времен России придется выделять нам кредитные инъекции, сообразуясь с углубляющимся собственным экономическим и политическим кризисом. Хотя экономический обвал в Беларуси Кремлю всегда был ни к чему. А сегодня угроза обвала реально нависла и над российской экономикой.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 СТУДЗЕНЯ 2015 г.

# Беларускі народны каляндар на 2015 год

*Народны каляндар – гэта сістэма сталых ці рухомых свят, прысвяткаў, абрадаў, гульняў, звычаяў, што замацаваны ў быце і фальклоры. Гэта пераважна спалучэнне язычніцкай і хрысціянскай культур. Ён уключае традыцыйныя арыенціры (хранонімы) на сельскагаспадарчыя работы і адпачынкі ў гадавым, сезонным, месячным і іншых цыклах-рытмах. Утрымлівае традыцыйныя феналагічныя, метэаралагічныя, аграномічныя, астранамічныя, астралагічныя і іншыя каляндарныя веды, атрыманыя пераважна шматгадовым вопытам.*

У народным календары на 2015 год прадстаўлены асноўныя святы і прысвяткі з кароткімі тлумачэннямі, прыкметамі і г. д. Дні, якія адзначаюць беларусы-католікі, выдзелены курсівам. У праваслаўных яны замацаваны за старым, юліянскім, календаром, што мае 13 лішніх дзён. Зорачкай (*) пазначаны святы «рухомай» царкоўнай пасхаліі.

*У наступным, 2016, годзе праваслаўная Пасха (Вялікдзень) будзе 1 мая, а каталіцкая – 27 сакавіка.*

*Умоўныя абазначэнні: п – панядзелак, а – аўторак, с – серада, ч – чацвер, пт – пятніца, сб – субота, н – нядзеля. Даўжыня дня і моманты ўсходу і захаду падаюцца для Мінска. Больш падрабязна пра значэнне хранонімаў календара можна прачытаць у нашай кнізе "Беларускі народны каляндар" (Мінск, 2002).*



## Студзень

**1. ч. Новы год.** ВКЛ перайшло на студзеньскі стыль у 1550 г., Расія – з 1700 года.

**6. а. Першая, Посная куцця.** Перадкалядная вячэра. Які дзень, такі і год. ***Тры Каралі.*** Католікі праводзілі маскіраваны абрад «Тры каралі», або «Гэроды».

**7. с. Раства Хрыстова.** Пачатак **Каляд.** «Ой, Калядачкі, бліны-ладачкі...». Калядавалі. Насілі «звязду». Паказвалі батлейку. На Каляды праводзілі ігрышчы («вадзілі казу», «жанілі Цярэшку», «пяклі ката», гулялі ў «Яшчура» і інш.).

**9. пт. Сцяпан.** «На святога Сцяпана вышэй слуга за пана».

**13. а. Шчодрая куцця.** Пачатак **Шчодрага тыдня.** «Мароз, хадзі куццю есці».

**14. с. Васілле. Новы год** па правасл. календары. «Сею, сею, пасяваю, з Новым годам вас вітаю».

**18. н. Трэцяя, Галодная, Вадапосная куцця.** Апошнія дні Каляд. «Каляда ад'язджае».

**19. п. Вадохрышча (Кшчэнне).** «Святое Кшчэнне ваду ксціла... свет ачысціла і ваду наверх пусціла», «На Вадохрышча завіруха – на Вялікдзень таксама».

**20. а. Прывадохрышча** – заканчэнне Каляд. Пачатак **Малой вясельніцы** (да посту).

**24. сб. *Аксіння.*** «Аксіння дарогу перамяце, а корм падмяце». **Фядос.** «На Фядоса цёпла».

**25. н. Таццяна.** Свята студэнтаў. ***Павел.*** «Вее вецер – будзе вайна».

**31. сб. Апанас, Гусінае свята.** Свята свойскай жывёлы. «Хавай нос у апанасаўскі мароз».

## Люты

**1. н. *Ігнат.*** «На Святога Ігната зіма багата».

**2. п. *Грамніцы, Стрэчанне.*** «Калі на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юр'я наесца вол травіцы», «Грамніца – хлебу палавіца...».

**5. ч. *Агата.*** Каровіна свята. «Хлеб і соль Святой Агаты не пусцяць бяды да хаты».

**6. пт. Аксіння Паўзіміца.** «На Аксінні мяце». ***Дарота.*** «Па Дароце высахнуць хусты на плоце».

**8. н. *Памінальніца.** Памінальны тыдзень. Калі "вея" ў нядзелю, то авёс трэба сеяць на 9-м тыдні, калі ў панядзелак – то на 8-м, калі ў сераду ці чацвер – то пакідалі "дзесяцінкі дзве".

**11. с. Ігнат.** «Ігнат Грамніцам рад».

**13. п. *Дзедава пятніца.**

**14. сб. Трыфан.** «На Трыфана зорна – вясна позняя». ***Валянцін.*** Свята закаханых. ***Масленыя Дзяды (Бабы).** «Дзяды не зналі бяды, а нашы ўнукі зазналі мукі».

**15. н. Грамніцы, Стрэчанне.** «Зіма з летам сустракалася...», «На Грамніцы палавіна зіміцы». ***Рабы тыдзень, Малая вясельніца, Развітальны, Сырапусны тыдзень.** Тыдзень перад Масленіцай. Які добры дзень на Масленным тыдні, у той дзень ад Іллі сеялі лён. Дзяўчаты вешалі "калодкі" нежанатым хлопцам.

**18. с. Агата.** Каровіна свята. ****Серада Папяльцовая*** (пач. Вялікага посту ў католікаў). ***Лыся серада.** Праталіны-залысіны.

**19. ч. *Блакітны чацвер.** Тумановы дзень. ***Крывы, Тлусты чацвер, Валосы, Валосся.** Свята жывёлы. «На Валосага бліны пяклі ці аладкі, каб былі валы гладкі».

**22. н. *Масленіца.** «Масленіца ў "вятху" (пасля поўні) – дзяржы пшаніцу ў мяху, сей пшаніцу на ўсю руку». **Гуканне вясны.** «Блаславі, божа, зіму замыкаці, вясну загукаці». На Палессі вадзілі карагоды, "спявалі чырачку", насілі ёлку з вянком.

**23. п. *Паласказуб.** Першы дзень Вялікага посту. Паласкалі зубы гарэлкаю.

**24. а. Улассе.** Свята жывёлы. «Аўлас на сыры лас». ***Мацей.*** «На Мацея дарога пацее», «На Мацея адліга – будзе мароз».

**25. с. Уступная серада.** Каб урадзіў лён, мылі верацёны ці калаўроты, хадзілі ў карчму і пераскоквалі цераз пень.

**26. ч. Фаціння.** Заступніца ад хвароб.

**28. сб. *Зборава субота.** Абрад "споведзі дзежкі".

**29. н. *Зборніца, Ізбор.** Пачатак збору ў поле. «А святы Ізбор – бяжыць вада з гор».

## Сакавік

**4. с. *Казімір.*** «Святы Казімір дровы сякецць».

**9. п. Янка, Паўраценне.** Мядзведзь паварочваецца ў бярлозе на другі бок.

**12. ч. *Рыгор.*** «На Святога Рыгора ідуць рэкі ў мора».

**13. пт. Васіль Капальнік.** Са стрэх капае.

**14. сб. Аўдоцця Вясноўка. Гуканне вясны.** «На Аўдокі голы бокі». (1.03 Новы год у мінулым, сакавіцкі каляндарны стыль).

**15. н. Хвядот.** «На Хвядота занос – усё сена знясе».

**16. п.** *Пачатак **Храстовага тыдня.** Пяклі "храсты". Засеўкі. Абрад "жаніцьбы коміна".

**17. а. Герасім Гракоўнік.** «Герасім гракоў прыгнаў».

**18. с. *Серадапосце.** Выпякалі "храстцы".

**19. ч. *Язэп.*** «Святы Язэп сярод посту шлюб дае прахвосту». «На Язэпа пагода – год ураджайны».

**21. сб.** *Вясновае раўнадзенства. Усход 6.16, захад 18.18. Маладзік.*

**22. н. Саракі.** Свята птушак. Прылятае 40 выраяў. «Святыя Саракі ў поле саху валаклі». **Прыска**. «На Святога Прыску праб'е лёд і пліска».

**23. п.** Пачатак ***Пахвальнага тыдня.** «Дзікая качка яйцом пахваліцца».

**25. с. Рыгор.** «На Рыгора зіма ідзе ў мора». ***Дабравешчанне, Звеставанне.*** «І птушка гнязда не кладзе». Прылёт бусла. Гуканне вясны.

**26. ч. Міжблагавешчыны** (да 7 красавіка). Забарона на "запасванне" кароў.

**27. пт. *Пахвальная пятніца.** Мыццё дзежак.

**28. сб. *Пахвальная субота.** Не грымелі кроснамі, каб гром не грымеў.

**29. н.** * ***Пальмова нядзеля.*** «Вярба б'е, не я б'ю».

**30. п. Аляксей Цёплы.** Дзень рыбалова. «На Цёплага Аляксея рыба ідзе на нераст, карова на верас, а бортнік на хвою». Пачатак ***Вербнага, Белага, тыдня. *Чысты, Блакітны, панядзелак.**

## Красавік

**1. с. Дар'я Вясенняя.** Адбельвалі палотны.

**5. н. *ВЯЛІКДЗЕНЬ*** *(у католікаў).* ***Вербніца. *Арына.*** «На Арыну сей капусту ў расадніках».

**6. п. Камаедзіца.** Свята мядзведзя. **Благавеснік.** Пяклі пірагі "буславы лапы". Пачатак ***Белага, Вялікага, тыдня. *Чысты панядзелак.** Бялілі і мылі ў хаце.

**7. а. Благавешчанне.** «Благавешчанне без ластавак – халоднае лета». Абрад «Страла». ***Чысты аўторак.** Каб на людзей і "гаўядо" не напала "парша", трэба ўсё мыць.

**8. с. Благуста.** «На Благусту сей капусту». ***Дравяная страсць.** Мыюць усё дравянное.

**9. ч. Матрона.** «На Матрону шчупак хвастом лёд разбівае». ***Чысты чацвер.** Лазня. Абрад мыцця дзежкі.

**10. пт.** ***Чырвоная, Веліко-дная, пятніца.** Сеялі гарох.

**11. сб. *Вялікая, Чырвоная, субота.** Фарбавалі яйкі. Канец Вялікага посту.

**12. н. *ВЯЛІКДЗЕНЬ** (у праваслаўных). «Хрыстос уваскрос! – Сапраўды ўваскрос!».

**13. п.** Працяг ***Велікоднага тыдня.** «Першы дзень пірагі маюць, а сярэдні пагуляюць, а пасledні дзень выпраўляюць».

**14. а. Прабуджэнне хатніка. Мар'я.** Калі ў ясную ноч прыбывала вада, то суха будзе ў жніво на хлебнай ніве.

**15. с. Палікарп.** Пачатак бясхлебіцы. ***Градавая серада**. **Праводны, Мёртвы, тыдзень.** «Пайшла зіма да Кіева, а лета нам пакінула».

**16. ч. Мікіта.** «Калі на Мікіту крыгаход, то няма ні клёву, ні лову рыбаловам».

**19. н. *Праводная нядзеля.** «Ідзі, зіма, да Кучава, як ты нам надакучыла».

**21. а. Руф.** Руф рушыць снягі.

**23. ч. *Юрый.*** (Новы год па задыяку). «Як зязюля закукуе за 12 дзён да Юр'я на "голы" лес, то не чакай ураджаю і будзе хварэць жывёла». ***Войцах.*** «Святы Вайцеху выпусціў жаўранка з меху».

**24. пт. Анціп** – ахоўнік зубоў.

**25. сб. *Марк.*** «Дождж на Марка, дык зямля як шкварка».

**27. п. Радаўнічныя Дзяды.**

**28. а.** ***Радаўніца.** «На Радаўніцу да абеду пашуць, па абеду плачуць, а к вечару скачуць». **Пуд.** «Пуд снег пугне».

**29. с. Арына.** «На Арыну сей капусту».

**30. ч. Зосім** – ахоўнік пчол. **Андрыянава ноч, Андрэй.** Ноч дзявочай варажбы і чараўніцтва.

## Май

**1. пт. Кузьма.** «Май Кузьма з морквінай сустракае, а Пахом з гурком».

**3. н. *Міраносіцы.** «На Міраносця п'яныя бабы цігаюць адна адну за валосся».

**4. п.** Пачатак ***Пераплаўнага, Чарвівага, тыдня.** Не трэба садзіць, бо заядуць чэрві.

**5. а. Ляльнік.** Свята Лялі – дачкі Лады.

**6. с. Юр'е.** Свята жывёлы. «Як дождж на Юр'я – хлеб будзе і ў дурня». Абрад «Страла». ***Градавая, Пераплаўная, серада.** Засцярогі ад граду і дажджу.

**7. ч. Алісей.** «Прыйшоў Алісей – авёс пасей». **Бабскія розбрыкі.** Скокі жанчын і качанне па зямлі дзеля ўрадлівасці.

**8. пт. Марк.** «Дождж на Святога Марка – дык зямля, як скварка». ***Станіслаў.*** «Сей лён на Станіслава – вырасце, як лава».

**10. н. Ярылавіца.** Свята Ярылы.

**13. с. Якуб.** «На Якуба грэе люба».

**14. ч.** ****Ушэсце.*** Унебаўшэсце пана Езуса. Свята агляду жыта. **Макарэй.** Абрады ля вады.

**15. пт. Барыс**. Апякун поля і жывёлы. ***Градабойцы, Ледавіты дзень.**

**18. п. Арына Расадніца.** Дзень высаджвання расады ў Паазер'і.

**20. с. Антоній.** «На Святы Антоній сей авёс для коней, а як удасца, дык і прадасца».

**21. ч. *Ушэсце.** Абрад «Страла». **Іван Веснавы**. Апякун земляроба. «На Івана каласок, а на Пятра піражок».

**22. пт. Мікола Веснавы.** Свята пастухоў. ***Алёна.*** «Сей лён на Алену, будзе кашуля па калена».

**23. сб. Зілот.** «Сей пшаніцу на Зілота, і яна будзе, як злата».

**24. н.** ****Сёмуха, Зыход Св. Духа.*** Свята зелені. **Макей.** «Мокра на Макея – і лета не прасушыць». **Кірыла і Мяфод.** Калі дзень мокры – і лета будзе мокра.

**25. п. Епіфан.** «На Епіфана раніца ў чырвоным каптане, неба з барваю – гарачае лета».

**27. с. Сідары.** «Прыйшлі Сідары – прыйшлі і сіверы». ***Градавая серада.**

**28. ч. Пахом.** «Святы Пахом павее цяплом». «Сей агуркі на Пахом – будзеш насіць мяхом».

**29. пт. *Магдалена.*** Зязюльку прысылае. ***Сёмушныя Дзяды.**

**30. сб. *Духавая субота, Зялёная субота.** «На Духа будзе цёпла і суха».

**31. н. *Сёмуха, Тройца.** Культ продкаў і раслiннасці. «Павядзём Куста пад гай зялёненькі...». **Шэсць дзеў.** «Лён сей позні». **Канапелька Матруна.** «У зямлю махнула». **Фядот.** «Як на дубе апушка – у Фядота поўна аўса кадушка».

## Чэрвень

**1. п.** ***Русальніца, Іван ды Мар'я.** Праводзіны вясны. «На Граннай нядзелі Русалкі сядзелі...».

**2. а. *Конскі Вялікдзень.** Свята коней. **Тры пакутнікі.** «Няма лета, але пасля іх не бывае зімы».

**3. с. Алёна, Ульяна.** Дзень ільну. ***Градабой, Серада Русаль.** Здабывалі з ясеня святы агонь.

**4. ч.** ****Божае цела, Зелянок.*** ***Наўская Тройца.** Памінанне. ***Абліваха. Васіліск.** «Ад Васіліска і салавей блізка».

**5. пт. Дзень Еўфрасінні Полацкай.** Хадзілі пакланіцца і абракацца.

**7. н. Ян.** «Рой перад Янам – пчаляр панам». ***Русальчыны розыгры.** Засцерагаліся рос.

**8. п.** ***Пятроўка** да 11 ліп. Пятроўскі пост. Пятроўка-галадоўка.

**11. ч.** ***Дзявятнік.** Перавод уніятаў у праваслаўе. «Дзевяць ягодзін на ветцы».

**12. пт.** ***Дзевятуха.** Дзень ад навальніцы.

**13. сб. Ерамей. *Антоній.*** «Антоні, аддай коні».

**14. н. Юстын і Харытон.** «Юстын цягне ўверх каноплі, а Харытон – лён».

**16. а. Лук'ян.** Паўднёвы вецер на Лук'яна – на добры ўраджай яравых.

**18. ч.** ***Дзясятнік.** «Дзясятнік гнаі возіць».

**19. пт.** ***Дзясятка.** «Косы точыць». «Жыта паспявае».

**20. сб.** (да 23). *Летняе сонцастаянне. Даўжыня дня – 16.52. Усход – 3.45, захад – 20.37.*

**21. н. Тодар.** «На Тодара раса – канапель паласа».

**22. п. Кірыла.** Дзень сонцастаяння. Пачыналі касавіцу ў Паазер'і.

**23. а. *Купала.*** У старажытн. – Новы год/ лета.

**24. с. *Ян Купальны*.** «Сонца грае».

**25. ч. Анапрэй.** «Хто на Нупрэя пасее грэч, той будзе бліны печ».

**26. пт. Акуліна Грачышніца.** Сеялі грэчку. **Задзярыхвост.**

**28. н. Амос.** «Прыйшоў Амос – цягне ўгору авёс».

**29. п. Ціхан.** «Пеўчыя птушкі заціхаюць». ***Пятрок.*** «Да Пятра зязюльцы кукаваці». «Прыйшоў Пятрок – апаў лісток, прыйдзе Ілля – ападуць і два».

## Ліпень

**6. п. Купалле**. Свята Сонца і кахання. «Дзень адбаўленне, ночы прыбаўленне».

**7. а. Іван Купала.** «Учора была Купала, а сёння Іван».

**10. пт. Самсон.** «На Самсона дождж – сем тыдняў то ж». ***Сем братоў.*** «Сем братоў варожаць, колькі тыдняў пагоды».

**12. н. Пятро.** Свята заканчэння Купалля.

**13. п. Паўпятро.** Дзень талакі. **Сымон і Юда.** «На Сымана й Юды конь баіцца груды».

**14. а. Кузьма і Дзям'ян.** Свята кавалёў. «Святы Пятро жыта спеліць, Св. Кузьма сярпы робіць, а Св. Дзям'ян сена грабе».

**17. пт. Андрэй.** «Авёс у світцы, а на грэчцы і кашулі няма». «Андрэй усіх мудрэй».

**18. сб. Свята Месяца.** «Месяц гуляе».

**21. а. Казанская. Пракоп**. Пракоп бок прыпёк. ***Данат.*** «Святы Данат коскі точыць».

**25. сб. Прокл.** Засцерагаліся вялікіх рос. ***Якуб.*** «На Якуба хлеба поўна губа».

**26. н. Гаўрылей.** Засцеражэнне ад граду. ***Ганна.*** Снапы кладзе.

**29. с. Афінаген.** Заціхаюць птушкі.

**31. пт. Серпавіца, Шыпілінка** (пятніца перад Іллёю). Дзень "зазубрывання" сярпоў.

## Жнівень

**1. сб. Макрыны.** «Глядзі восень па Макрыні».

**2. н. Ілля.** Свята дажджоў і навальніц. «Ілля нарабіў гнілля», «Укінуў у воду кусок ільда».

**4. а.Мар'я.** «Магдалена – вады па калена».

**6. ч. Барыс Палікоп.** «Барыс і Глеб – паспеў хлеб».

**7. пт. Ганны.** «Святы Ганны бабкі стаўляюць».

**9. н. Палікоп.** Паліць копы. **Панцеляймон.** Сцаляў ад хвароб галавы.

**11. а. *Лаўрын.*** «На Лаўрына спяшай да млына».

**12. с. Сіла.** Жыта сей.

**14. пт. Макавей, Першы Спас.** Свята маку і мёду. **Спасаўка.** Пост да 28 жніўня.

**15. сб. Базыль.** «Базыль авечкам воўну дае». ***Прачыстая, Зельная.*** «Прыйшла Прачыста – стала поле чыста».

**16. н. Антоны Віхравеі. Рох.** «Кірмаш на паненак».

**17. пн. Еўдакія.** Агуркі збірае.

**19. с. Яблычны Спас.** Свята садавіны.

**23. н. Лаўрэн** – свята млынара.

**24. п. *Баўтрамей*.** «Св. Баўтрамей высылае буслоў па дзяцей». «Прыйшоў Баўтрамей – жыта на зіму сей».

**27. ч. Міхей.** Выспяваюць брусніцы.

**28. пт. Прачыстая.** Свята ўраджаю.

**29. сб. Трэці Спас.** Свята хлеба. **Ян.** «Ян на лета прыйшоў, а ўжо восень знайшоў».

**30. н. Міроны Ветрагоны.** «Пыл па дарозе гоняць, па прыгожым леце стогнуць».

**31. п. Флор і Лаўр.** Свята коней. **Арабінавыя дзень і ноч.** "Сухая" навальніца, дождж.

## Верасень

**5. сб. Лупа.** «Сей на Лупа – будзе жыта купа».

**7. п. Баўтрамей.** «Жыта на зіму сей».

**8. а. *Другая Прачыстая.*** «Меншая Прачыста – канчай сеяць начыста».

**10.ч. Мацей**. Абаронца ад п'янства.

**11. пт. Калінавік, Іван Крываўнік.**

**13. н. Кіпрыян.** Журавель збіраецца ў вырай.

**14. п. Сымон.** Абрад «жаніцьбы коміна». (Асенняе Навалецце з 1493 г.). Закрыванне зямлі. **Бабіна лета. *Узвіжанне.***

**19. сб. Цуды, Міхал.** «Міхал з поля спіхаў».

**21. п. Багач, Нараджэнне Божае Маці.** Свята заканчэння ўборкі зерневых. Засідкі.

**23. с.** *Асенняе раўнадзенства. Усход – 6.01, захад – 18.01.*

**24. ч. Тадора.** «На Тадору ўсякае лета заканчваецца».

**26. сб. Стаўроўскія Дзяды.**

**27. н. Звіжанне.** Свята закрывання зямлі на зіму. Гадзюкі – у кучу.

**29. а. *Міхал.*** «Калі на Міхала з поўначы вецер вее, то не май на надвор'е надзеі». **Сіцыян.** «Святы Сацыян да ляны пасцілаў».

## Кастрычнік

**2. пт. Зосім.** Журавіны на Зосіма ўздымаюцца – мароз на Пакровы ўдарыць.

**3. сб. Астап, Астаф'я.** Прыкметы па ветры.

**4. н. *Пранцішак, Францішак.*** «На Пранцішка зярнят шукае ў полі мышка».

**8. ч. Сяргей. Жалезны тыдзень.**

**9. пт. Іван Шаптун, Іван Кураед, Багаслоў.** Шапталіся свахі пра нявест.

**14. с. Пакровы, Трэцяя Прачыстая.** Вясельная пара. «Свята Пакрова, пакрый зямельку лісточкам, а галоўку – вяночкам». «Пакровы – зарыкалі каровы». **Дзявоцкае лета** (па 21.10). Прымалі "ў дзеўкі" сяброўак.

**21. с. Трыфан, Палагея.** «Золкім ветрам вее». ***Зміцер.*** «Да Зміцра баба хітра».

**25. н. Марцін** – свята млынароў.

**28. с. *Сымон і Юда.*** «Сымон з Юдаю працу ў полі канчаюць, хаты аглядаюць». ***Параскева Пятніц-кая.*** Забарона на прадзенне.

**29. ч. Лонгін.** Збавіцель ад хвароб вачэй.

**30. пт. Паклоны.** Дзень адбівання паклонаў.

**31. сб. Лука.** «Хто сее да Лукі, не будзе мець ні хлеба, ні мукі». Дзень іканапісцаў. ***Юльян*** – ахоўнік дзяцей.

## Лістапад

**1. н. *Усе святыя.*** Памінальны дзень.

**2. пн. *Задушны дзень.*** Памінальны дзень.

**4. с. Казанская.** Дождж ці снег.

**7. сб. Асяніны, Змітраўскія Дзяды.** «Святыя дзяды, завём вас...».

**8. н. Зміцер.** «Да Зміцра дзеўка хітра». Канец надзеі выйсці замуж у гэтым годзе.

**9. п. *Тодар.*** «На Тадора поўна камора».

**10. а. Параскі.** Апякунка жанчын і рукадзелля.

**11. с. Настуся.** Настуся стрыжэ авечкі. ***Марцін.*** «Мядзведзь кладзецца ў бярлогу».

**12. ч. Артошка.** Пачатак прадзення.

**14. сб. Кузьма-Дзям'ян.** Апякун земляробства, кавалёў і вяселля.

**21. сб. Міхайлаў дзень.** Абаронца ад грому. Мядзведзі ідуць у спячку.

**22. н. Матрона.** «З Матроны становіцца зіма».

**24. а. Хвёдар Студзянец.** «Хвёдаравы вятры галоднымі ваўкамі скуголяць».

**25. с. Іван Міласцівы.** Дзень падарункаў. ***Кацярыны.*** «Кацярына забрала лета».

**27. пт. Юстыніян.** Апякун плоднасці і дзяцінства. **Піліп.** Пярэдадзень Піліпоўскага посту (да 7 студзеня).

**28. сб. Піліпаўка** – перадкалядны пост.

**29. н. Мацей.** «На Мацея зіма пацее». ***Адвент.*** Перадкалядны пост.

**30. п. *Андрэй*.** Дзявочае свята.

## Снежань

**4. пт. Увядзенне.** Водзяцца ваўкі. ***Барбара.*** «Барбара ноч урвала, а дзень надтачыла».

**5. сб. Пракоп. *Савы.*** «Барбара мосціць, Сава цвікі войстрыць, а Мікола прыбівае».

**6. н. Матрыхваны.** Не пралі. ***Мікола.*** «Хвалі зіму па Міколе».

**7. п. Кацярыны.** «Забрала край лета».

**9. с. Юр'е Зімовы.** Юра мосціць. ***Ганны.*** «Ад Ганны да Каляд два тыдні і два дні».

**13. н. Андросы, Андрэйкі.** Варажылі.

**14. п. Навум.** Наставіць на вум.

**17. ч. Варвары**. «Мікола і Варвара ноч урвалі».

**18. пт. Савы, Міколін бацька.** «Сава мосце, а Мікола гвоздзе».

**19. сб. Мікола Зімовы.** «Без Міколы не бывае ні зімы, ні лета». «Мікола марозам гвоздзіць».

**22. а. Ганны.** «Ганкі – сядайце на санкі».

**24. ч. *Посная куцця.*** Пачатак Каляд (да 6 студз.).

**25. пт. Спірыдон Сонцаварот. *Божае Нараджэнне.***

**26. сб. *Сцяпан.*** «Кожны сабе пан».

**31. ч. Марк.** «Марка да Варка – няхай будзе парка». ***Багатая куцця. Сільвестр.*** Варажылі дзяўчаты.

**Алесь ЛОЗКА.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная:**
**тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела:**
**(017) 3286609, 3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15001

**Падпісныя індэксы:**

**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 05.01.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25830 экз. Заказ №92.**

КРЫЖАВАНКА

# Навагодняя элегія



**Па гарызанталі:** 1.Галаўны ўбор. 5. ... Іпатава – імя выдатнай беларускай пісьменніцы, грамадскай дзяячкі; 1 студзеня – 70 год з дня яе нараджэння. Шчасця, здароўя, творчых поспехаў Вам, паважаная ... Міхайлаўна! 8.Склеп з лёдам для захоўвання мясных, рыбных прадуктаў. 9.Да пары ... ваду носіць, ручка адарвецца – ... паб'ецца (прык.). 11.Каляндарны час якой-небудзь падзеі. 13. ...-месяц старое гора канчае, новаму году новым шчасцем дарожку сцеле (прык.). 14.У зімні ... кожны молад (прык.). 16.Шафка для абразоў. 17."На новае лета радзі, Божа, жыта,// Шчодры ..., багаты ..." – з каляднай песні. 18."Прываблівае зрок пасля зімы//... сваёй зялёнаю абноўкай" – з верша "Ты, калі ласка, зноўку апрані" Міколы Аўрамчыка, якому на Стары Новы год, 14 студзеня, споўніцца 95 год з дня нараджэння. Здароўя, доўгіх год жыцця Вам, паважаны Мікола Якаўлевіч! 19."І канькі, і нястомныя ...,//Што, як пёркі, злятаюць з гары" – з верша Т.Дзям'янавай "Не надыхацца, не наталіцца". 20.Вельмі спешная работа ўсяго калектыву. 22."Прыехала Каляда на белым кані,//Яе конічак – ясен ...,//Яе дружачка – ясна зорачка" – з каляднай песні. 25.Белы клён. 27."... пушысты залёг,//На галінах сасон" – з верша Я.Купалы "Зімой у лесе". 28.Абяцанка-..., а дурню радасць (прык.). 29.Надышлі Калядкі – бліны ды ... (прык.). 30. ... пад акном зімой зачырыкае – чакай адлігі (прык.).

**Па вертыкалі:** 1."Заяц шэры,//Заяц-зух// Да зімы пашыў ..." – з верша Р.Барадуліна "Як звяры зіму сустракаюць". 2.За тыдзень да Каляд – ... чэлядзі не рад (прык.). 3. Катэгорыя, падраздзяленне. 4.Той, хто займаецца плаваннем зімой у адкрытых вадаёмах. 5. Старажытнае дэкаратыўнае пісьмо. 6. ... моцна трашчыць – будзе мароз (прыкм.). 7. Моцнае захапленне. 10.Невялічкае воблака. 12.Мінерал, каштоўны камень, які раяць дарыць жанчынам у Новым 2015 годзе, годзе Казы паводле ўсходнеазіяцкага календара. 15.Род конных спаборніцтваў. 16."Белая ... . Зіма беларуская...//Што ж мне не дорыш снягурачку ты?" – з верша "Белыя сыплюцца долу крышталікі" Н.Гілевіча, які нарадзіўся ў год Казы; у гэты год нарадзіліся таксама А. Звонак, А.Пушкін, А.Бальзак, А.Талстой, А.Чэхаў, М.Зошчанка, Я.Гашак, М.Твен, Х.Калумб, Архімед. 19."Але зірнем мы на Парэчча,//Чым там у лесе жыве хата,//Як там рыхтуюцца да ...//І як калядкі сустракаюць" – з паэмы Я.Коласа "Новая зямля" ("Каляды"). 21.Часовая стаянка, звычайна пад адкрытым небам. 22."Учора з вячора зара засвяціла.//Новы год новы, зара засвяціла,//А Божая ... Сына нарадзіла.//Новы год новы, Сына нарадзіла" – з каляднай песні. 23.Рыбалоўны кручок з трыма зубцамі (разм.). 24.Напітак, які павінен быць на стале ў першую посную куццю. 26.Які ..., такі плод (прык.). 27. Бабовая расліна.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**
*г.Дзяржынск.*

**Праверце, калі ласка, адказы:**

**Па гарызанталі:** 1.Каўпак. 5.Вольга. 8.Лядоўня. 9.Жбан. 11.Дата. 13.Снежань. 14.Холад. 16.Ківот. 17.Вячор. 18.Зямля. 19.Санкі. 20.Аўрал. 22.Месячык. 25.Явар. 27.Снег. 28.Цацанка. 29.Аладкі. 30.Снягір.

**Па вертыкалі:** 1.Кажух. 2.Пан. 3.Клас. 4."Морж". 5.Вязь. 6.Лёд. 7.Азарт. 10. Аблачынка. 12.Аквамарын. 15.Дэрбі. 16. Казка. 19.Свята. 21.Лагер. 22.Маці. 23.Якар. 24.Квас. 26.Род. 27.Соя.